*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 5 (544)** **30 СТУДЗЕНЯ 2002 г.**

# Пад знакам 120-годдзя з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа



Сёлетні год пройдзе ў беларускай культуры пад знакам 120 годдзя з дня народзінаў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Планам мерапрыемстваў, які зацверджаны створаным з гэтай акалічнасці Нацыянальным аргкамітэтам, запланавана правядзенне шматлікіх акцый. Першая з іх адбылася ў Літаратурным музеі Якуба Коласа.

У вечарыне прыняў удзел намеснік міністра культуры Валеры Гедройц.

**На здымках:**

1. Выступае Вольга Іпатава.
2. Спявае вакальны ансамбль "Берагіня" з Стоўбцаў.

**Фота Наталлі Аблажэй, БелТА.**



*Сяргей Панізьнік*

**У вянок Янку Купалу і Якубу Коласу**

**Сэрца і хлеб**

*"У большасці сваёй іх дзеці (менчукоў – С.П.) адначасова вывучалі "мову хлеба" і "мову сэрца". Але ў сучасных умовах большая частка аддае перавагу "мове хлеба". Жан П'ер Жанто, супрацоўнік Міністэрства адукацыі Францыі ("Наша слова" № 1, 3.1.2002 г.)*

Мова сэрца –
Мова неба.
Як азерца –
Мова хлеба.

Слова светлае
Для службы.
Слова ветлае
Для дружбы.

Госць у хату –
Ў мову неба.
Хто на здраду –
З мовай хлеба.

Слова роднае
Святое.
Слова зводнае –
Звітое...

Спадкаемцу
Мова неба.
Шлях да дзверцаў –
Мове хлеба.

Мова неба
Як цяпельца.
Мова хлеба
Ў адшчапенца.

Ясь! Імя пайшло
На згубу.
Хто сказаў "Ало!"
Якубу?

О, ганебна –
Мова хлеба.
Мова сэрца
Ў аднаверца.

Мова нетраў,
Неба мова –
Як паветра,
Як замова.

Неба – голас,
Дол – апалак...
Промні: Колас
І Купала.

# Заміж "Голасу душы" - ранішняя імша

Пад ціскам грамадскасці беларускія ўлады вымушаны былі зрабіць паўкроку назад у супрацьстаянні з мільёнамі католікаў Беларусі.

У нядзелю 27 студзеня зноў загучала слова Божае на беларускай мове з беларускага ж радыё.

Але гэта ўжо не рэлігійная перадача ксендза Уладзіслава Завальнюка "Голас душы" з Чырвонага касцёла Святых Сымона і Алены, а ранішняя імша з галоўнага касцёла Менска Менскага кафедральнага касцёла Найсвяцейшай панны Марыі.

Улады яўна не чакалі такога мгутнага негатыўнага грамадскага рэзанансу, які выклікала закрыццё "Голасу душы", і, каб зусім не страціць твару, вырашылі саступіць толькі часткова: перадачу не аднаўляць, але католікаў супакоіць, Завальнюка адхіліць, але імшу вярнуць.

З гэтай нагоды Сакратарыят ТБМ выказвае падзяку ўсім рэдактарам незалежных газет, якія апублікавалі Заяву ТБМ супроць закрыцця "Голасу душы".

Будзем спадзявацца, што эксперыменты на гэтым скончацца і новая перадача хаця б часткова заменіць "Голас душы".

# *Бог адраджае Беларусь*

Я ведаю, што сапраўдны беларус заўсёды радуецца, калі чуе беларускую мову, беларускія словы і ўсё, што датычыцца яе вялікасці Беларусі. Як відаць, усё беларускае нараджаецца цяжка. Таму і каштоўнасць вялікая. А, як радаваліся беларускія вернікі, калі з розных куточкаў Беларусі прыехалі тыя, каму не без розніцы Бог і наша любая краіна! Вось гэта было ўжо свята, дык свята. Вельмі радасна тое, што бутончыкі роднай мовы пачынаюць распускацца ў Менску, Стоўбцах, Баранавічах, Ляхавічах, Нясвіжы, Бабруйску... Як радасна было сустрэцца і песнямі, музыкай, вершамі, казаннямі праславіць Усемагутнага Творцу. Добра было відаць, што не перавяліся ў нас яшчэ паэты (Ніна Загарэўская са Стоўбцаў), музыканты (струнны аркестр з Баранавічаў), перакладчыкі (Бруй Уладзімір з Нясвіжа), публіцысты, гісторыкі, журналісты (Алег Васіневіч), спевакі (Лявон Ульскі з касцёлу, хор БНФ "Адраджэньне", спеўныя гурты "Жывая вада" і "Позні дождж") і гэтак далей. Ці няпраўда, добрая надзея для усіх нас, вернікаў, таму што ніхто абыякавым не застаўся, а наадварот, узнікла жаданне дзейнічаць далей у імя Святога і Міласэрднага Бога.

Наперадзе – зноўку свята. Гэта выданне поўнай Біблії на беларускай мове.

*Собаль Ганна,*
*г. Пінск.*



Беларуская мова-ТБМ-наша будучыня

## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Троцкая Лідзія – 1000 руб.
2. Конюх Виктар – 1500 руб.
3. Папко Валеры – 1000 руб.
4. Сумач Мікалай – 1000 руб.
5. Дрык Людміла – 1000 руб.
6. Дрык Вольга – 300 руб.
7. Дрык Юлія – 1000 руб.
8. Бурына Таццяна – 1000 руб.
9. Басалай Святлана – 1000 руб.
10. Басалай - 1000 руб.
11. Чыкіта Н.П. – 300 руб
12. Горбач Аляксандр – 1000 руб.
13. Гарчакоў Вячаслаў – 1000 руб.
14. Гарчакова Інна – 1000 руб.
15. Русак Лявон Міх. – 500 руб.
16. Люшкевіч Аляксандр – 1000 руб.
17. Курыс А.А. – 1000 руб.
18. Курыс А.М. – 1000 руб.
19. Дагель У.Ю. – 1000 руб.
20. Рыбак М.У. – 1000 руб.
21. Руцкі А.Н. – 1000 руб.
22. Анушкевіч М.Л. – 1000 руб.
23. Бруй М.М. – 1000 руб.
24. Сярко М.Д. – 1000 руб.
25. Петрушкевіч Васіль (Менск) – 5000 руб.
26. Казлоўская І.І. (Менск) – 800
27. Надзея Барт-Юрэвіч (Германія- – 50 DM
28. Ахвяраванні ўдзельнікаў VII з'езду БНФ "Адраджэньне" – 17856 руб.
29. Лягушоў Алег – 5000 руб.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

Людміла Піскун, старшыня Мазырскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны.

# ЧАМУ БЕЛАРУС З БЕЛАРУСАМ НЕ РАЗМАЎЛЯЕ ПА-БЕЛАРУСКУ?

Уласна кажучы, на пытанне "Чаму беларус не размаўляе па-беларуску?" я адкажу так: "Многія са шчырых сыноў і дачок Бацькаўшчыны, а да такіх я адношу сябе, сяброў ТБМ, выкладчыкаў беларускай мовы і беларускай літаратуры, а найперш супрацоўнікаў газеты "Наша слова" і іншых беларускамоўных газет і часопісаў, слынных сыноў-пісьменнікаў Бацькаўшчыны, настаўнікаў і вучняў вясковых школ і класаў і яшчэ тысячы непералічаных сапраўдных беларусаў, - размаўляюць па-беларуску паўсюдна, штодзённа на "радасць Маці-Беларусі і ўсім добрым людзям у свеце".

***"Мова – дзіця вялікай і несмяротнай любові –будзе жыць і дужэць на радасць Маці-Беларусі і ўсім добрым людзям у свеце"***

***(Ніл Гілевіч).***

Гэтае аптымістычнае выказванне мае рэальную падставу, паколькі відавочна сёння, што многія тысячы шчырых сыноў і дачок Бацькаўшчыны не ігнаруюць сваю мову, не закідваюць яе "на пасля". Не. Сапраўдныя беларусы не чакаюць гэтага "пасля", калі адменяць зверху "ганебна здрадніцкі закон" пра статус дзяржаўнасці дзвюх моў, таму што менавіта гэты закон, на мой погляд, з'яўляецца адной з прычын занядбання беларускай мовы. Сапраўдныя беларусы і сёння крок за крокам набліжаюць шчаслівы дзень сваёй існасці, сваёй беларускамоўнай дзейнасцю. І гэтыя намаганні даюць крохкія, аднак станоўчыя вынікі. Гэта значыць, што беларуская мова не толькі жыве, але і дужэе на радасць Маці-Беларусі.

Вось адзін з прыкладаў. У маім горпадзе Мазыры, у якім апошнім часам няма ніводнай беларускамоўнай школы, у гэтым навучальным годзе адкрыты беларускамоўны клас, міні-клас, у якім дзве вучаніцы навучаюцца па-беларуску. Перамагчы было нялёгка. Пачынала вырашаць гэта праблема са звароту бацькоў, чые дзеці хацелі вучыцца ў беларускамоўным падрыхтоўчым класе, да кіраўніцтва Мазырскай арганізацыі ТБМ. А далей – Мазырскі гарадскі выканаўчы камітэт (аддзел адукацыі), Цэнтральная Рада ТБМ на чале са сп. Алегам Трусавым, Упраўленне адукацыі Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта... Дзякуй Богу (як бачыце, на Бога спадзяваліся, а самі "дамагаліся") дзеці, якія з "Калыханкі" чулі родную мову, выхоўваліся ў беларускамоўным сямейным асяроддзі шэсць-сем гадоў – сёння жыццярадасныя, бо вучацца па-беларуску. Лічу правільным выказаць падзяку найперш А.А.Трусаву (ТБМ г. Менск), А.В.Лук'яновічу (начальнік Упраўлення адукацыі, г. Гомель), Г.В. Зайцавай (загадчыца аддзела адукацыі, г. Мазыр), старшыні Мазырскага гарадскога выканаўчага камітэту.

Безумоўна, у многіх закрадваецца сумненне: "А што далей?". Зразумела, з такой колькасцю вучняў другі беларускамоўны мініклас адкрываць не будуць. Выйсце ёсць: будучых (новых) вучняў будзе вучыць адна і тая ж настаўніца, спадарыня Шнітман. Такім чынам атрымаецца мінікамплектная школа на базе агульнаадукацыйнай школы № 14. Ад гэтага будзе толькі карысць. Другую прапанову, на наш погляд, можна здзейсніць толькі на ўзроўні Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, калі адтуль будзе ісці ініцыятыва: у г. Мазыры мова навучання вызначаецца ў адпаведнасці з заявамі бацькоў пры паступленні дзяцей у школу; пры наяўнасці не менш 10-15 заяў у беларускамоўны клас пры кожнай школе па месцажыхарству будзе адкрыты беларускамоўны падрыхтоўчы клас. І гэтую прапанову трэба давесці да ведама бацькоў-беларусаў да красавіка-траўня 2002 года, каб заставаўся час для адкрыцця адпаведных "захадаў" на ўзроўні улад, а не спадзявацца на грамадскае аб'яднанне, якое не мае юрыдычнай сілы.

***"Кожная мова – прыгожая, бо выяўляе асабовую сутнасць бясконцага, невычарпальнага, шматабліччага Боскага свету"***

***(Зянон Пазьняк).***

З выказвання сапраўднага Беларуса відавочна, што і руская, і ангельская, і іншая якая – прыгожыя мовы. І кожны з народаў размаўляе на сваёй роднай мове, а мовы другіх народаў вывучае як дадатковыя. Так павінна быць і на Беларусі: кожны з беларусаў павінен размаўляць на сваёй роднай, прыгожай мове, а другія мовы вывучаць як дадатковыя (пры жаданні).

На пачатку дзевяностых галоў у гісторыі нашай краіны адбылося штосьць амаль неверагоднае: беларуская мова стала ў Беларусі адзінай дзяржаўнай і любоў да беларускага слова прывівалася з дзіцячага садка, з першых класаў, бо была падтрымка на дзяржаўным узроўні.

А сёння, калі беларуса "спіхнулі ў дрыгву" ізноў, вобразна кажучы, віну ўскладваюць на таго ж беларуса: "Чаму ты не размаўляеш па-беларуску?". І той, хто самасвядома туды ўскочыў, адказвае, што размаўляць па-беларуску не абавязкова: пенсію даюць "во время" і дзякаваць Богу. Адзін з такіх прыкладаў – вясковая цётка-пенсіянерка, якая на сваім вяку пабачыла шмат гора, перамен і ёй не да адраджэння беларускай мовы, пра гэта няхай дбаюць "нацыяналісты", на яе думку. Чула бабка слова, не ведаючы сэнс сапраўдны яго і "абзывае" гэтым словам сапраўдных, шчырых беларусаў. Дзякаваць за камплімант, цётачка, мы ёй даруем, яна без адукацыі.

"Чаму беларус не размаўляе па-беларуску?". Праўда застаецца і такі факт: у пасведчанні аб нараджэнні дзіцяці бацькі пішуць "беларус" па нацыянальнасці, а самі бацькі спяваюць "Калыханку" рускім тэкстам. Дзіця выхоўваецца ў рускамоўным асяроддзі... Потым і пытанне ўзнікае: "Чаму беларус не размаўляе з беларусам па-беларуску?".

Верыцца, што сённяшнія вучні, навучэнцы ПТВ, студэнты імкнуцца дарасці да пачуцця самасвядомасці, пачуцця нацыянальнай годнасці і гонару за сваю прыгожую родную мову, нацыянальную культуру.

Асобным бацькам раю "павучыцца" у цыганскага насельніцтва, дзеці якога з маленства, з "Калыханкі" найперш ведаюць цыганскую мову з вуснаў сваіх бацькоў, не маючы цыганскіх школаў, падручнікаў, а беларускую ці якую іншую, у залежнасці ад месцажыхарства, ведаюць як дадатковую.

Хочацца нагадаць, што Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) лічыць, што справа сумлення і патрыятычнага абавязку кожнага беларуса, кожнага жыхара рэспублікі шанаваць і вывучаць беларускую мову, свабодна валодаць ёю, карыстацца ў штодзённым жыцці. ТБМ заахвочвае вывучэнне і распаўсюджванне гістарычных ведаў пра Беларусь.

Падтрымліваючы імкненне прадстаўнікоў усіх нацыянальнасцяў, што жывуць у рэспубліцы, да захавання і развіцця іх моў, ТБМ спрыяе і заахвочвае авалоданне імі мовай карэннай нацыі рэспублікі – беларускай.

У заключэнне – прызнанне Ларысы Яўгенаўны, рускай па нацыянальнасці: ***"Нарадзілася і вырасла ў Расіі. Па волі лёсу, нядаўна пераехала на пастаяннае месцажыхарства ў Беларусь. Прыгажосць беларускай мовы зразумела і сэрцам адчула, калі стала студэнткай Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай. Цудоўная, мілагучная беларуская мова, якую давялося вывучаць мне, вельмі мяне зачароўвае. Шчаслівыя беларусы, што маюць такую мову. Дзякаваць, што падсказалі мне падпісацца на газету "Наша слова".***

***(Л.Я.Лявонцева).***
***7.XII.2001 г."***

Павел Сцяцко

# Культура мовы

**Чытаючы навуковыя тэксты**

Пры знаёмстве з навуковымі тэкстамі нярэдка натыкаешся на іх штучнасць, ненатуральнасць як вынік калькавання структуры іншай мовы, паслоўны пераклад тэксту чужой мовы. Да прыкладу: *"Слова з указанай семантыкай у мове не значыцца"*. *"Этымолагі адзначаюць праславянскі характар паходжання слова"*.

Разгледзім выпадкі такой ненатуральнасці тэксту.

*"Словы адзначаюцца многімі дыялектнымі слоўнікамі"*. Натуральна па-беларуску тут было б: ***словы фіксуюцца...***

*"Надзвычай шырока прадстаўлены сінанімічны рад назваў..."*. Ці не лепш было б: ***сінанімічны рад слоў досыць багаты.***

*"У абазначаным значэнні рэалізуецца множналікавы назоўнік"*. Першыя два паўназначныя словы (*"абазначаным значэнні"*) таўталагічныя. Першае з іх напрошваецца замяніць на ***паказаным (у паказаным значэнні).***

*"Указаныя словаспалучэнні набываюць характар ідыяматычных выразаў..."*. У тэксце ненатуральныя два словы: ***указаныя*** і ***характар***. У беларускай мове звычайна выкарыстоўваецца слова ***паказаны*** (той, які вынікае з ранейшага тэксту) або ***згаданы***. Слова *"характар"* больш уласцівае тэкстам пры апісанні чалавека. Тэкст натуральна выглядаў бы хоць бы ў такой рэдакцыі: ***паказаныя (згаданыя) словазлучэнні набываюць уласцівасць ідыяматычных выразаў.***

*"У сілу семантычнай ізаляцыі крыніцы лексемы цяжка вызначыць яе сэнс"*. Што значыць для беларуса *"у сілу"*? Гаворка ж ідзе пра пэўную прычыну, якая перашкаджае вызначыць дакладны сэнс слова. То так трэба і напісаць: ***з прычыны ізаляцыі...***

Вельмі часта не да месца выкарыстоўваюцца словы *"вядомы"*, *"вядомыя"*: *"Народным гаворкам вядома і прэфіксаванае утварэнне"*; *"лексемы вядомыя і беларускай літаратурнай мове"*. А ці не лепш было б карыстацца тут іншымі натуральнымі для беларускай мовы лексічнымі адзінкамі? Скажам: ***...у гаворках бытуе прэфіксаванае ўтварэнне; лексемы уласцівыя і літаратурнай мове; слова занатаванае (зафіксаванае) і ў слоўніках літаратурнай мовы.***

*"З гэтага выцякае вывад..."*. Вывад ... выводзіцца, а не выцякае. Нязмушана тут было б хоць бы так: ***з гэтага вынікае, ці гэта дае падставу зрабіць выснову.***

*"Арэал і абмежаванасць распаўсюджання лексемы даюць падставы гаварыць пра украінскае лексічнае запазычынне"*. Тэкст вельмі няпэўны ў сэнсавым дачыненні. Бо што значыць "украінскае лексічнае запазычанне"? Слова прыйшло з украінскай мовы? Калі ў гэтым сэнсе выкарыстаныя словы, то так трэба было і напісаць. А як разумець *"арэал і абмежаванасць распаўсюджання лексемы"*? Ці не дакладней напісаць: абмежаваны арэал пашырэння лексемы дае падставы зрабіць выснову, што слова прыйшло з украінскай мовы.

У прааналізаваных намі шматлікіх тэкстах часта ўжываецца *"дадзенае"* (слова), *"дадзены"* (выраз). Гэта – паслоўнае калькаванне з *"данное"* (слова), *"данное"* (выражение). Як паказвае кантэкст, на месцы тут: ***гэтае*** слова, ***згаданае*** слова, ***гэты*** (***названы, згаданы***) выраз.

Словазлучэнне *"акаляючае асяроддзе"*, якое ўсё яшчэ ўжываецца – калька з *"окружающая среда"*. Калі ў расейскай мове дзеепрыметнікавыя формы з ***–ущ- (-ющ-), -ящ- (-ащ-)*** – пашыраная з'ява ў літаратурна-пісьмовай мове, то беларускай мове дзеяслоўныя формы з суфіксамі ***–юч- (-уч-), –яч- (-ач-)*** неўласцівыя. Замест *"акаляючае (асяроддзе)"* нацыянальны сучасны друк выкарыстоўвае прыметнікавае ўтварэнне ***"навакольнае (асяроддзе)"***.

Нярэдка бачым у тэкстах і слова *"валодае"* ў штучным для яго значэнні: *"Слова валодае шырокімі дэрывацыйнымі здольнасцямі"*. Гэта зноў-такі паслоўная калька. Натуральна: ***слова мае шырокія дэрывацыйныя здольнасці*** ці ***слову ўласцівыя шырокія дэрывацыйныя здольнасці.***

Згаданы напачатку сказ *"Слова з указанай семантыкай у мове не значыцца"* – тыповы ўзор калькаванай, штучнай структуры тэксту. Тут і неўласцівае беларускай мове *"указаная семантыка"* і *"ў мове не значыцца"*. Выказванне можна перадаць тэкстам: ***мова не мае такога слова*** ці ***слова з такой семантыкай не выкарыстоўваецца ў мове.***

Сказ *"Этымолагі адзначаюць праславянскі характар паходжання слова"* мог бы мець такі натуральны варыянт: этымолагі паказваюць на праславянскае паходжанне слова.

Інакш як калькаваннем нельга растлумачыць выкарыстанне ў навуковых выданнях зваротных дзеепрыметнікаў – гэтай неўласцівай беларускай літаратурнай мове катэгорыі словаў. На штучнасць такіх формаў паказвае акадэмічная "Беларуская граматыка" (1985). Пра гэта сведчыць і рэестры новага "Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996), дзе няма ніводнага слоўнікавага артыкула з такім словам. Не карыстаюцца гэтымі штучнымі структурамі філолагі – аўтары школьных падручнікаў. А вось спецыялісты – нефілолагі, на жаль, іх ужываюць. Вось прыклады з дапаможніка для 7 класа агульнаадукацыйнай школы з беларускай і рускай мовамі навучання "Гісторыя Беларусі ХУІ – ХУІІІ стст." (Мн., "Народная асвета", 2000): "Ні ў якіх землях не было такога кровапраліцця, не правіла баль такая тыранія, якую спазнала цяпер захлынуўшаяся плачам Польшча..." (с.125). "Але кроў стыне ад учынкаў казакоў і паказачыўшыхся беларускіх сялян" (тамсама). "А тая (частка шляхты), што зрабіла гэта пад прымусам, пры надарыўшымся выпадку здраджвала сваёй прысязе" (с.133). "Панятоўскі чакаў абяцаную Радзівілам дапамогу, бо ўжо не меў ахвоты з наяўнай сілай ісці супраць згуртаваўшыхся сялян"" (с.177).

Замест такіх штучных формаў у адрэдагаваных, дасканалых тэкстах выкарыстоўваюцца дзеепрыметнікі з суфіксамі ***–ан-, -т-***. У згаданых тэкстах натуральна было б ужыць: ***захлынутая плачам..., паказачаных сялянаў, пры надараным выпадку*** або (без гэтага дзеепрыметніка) ***пры выпадку, згуртаваных сялян.***

Менавіта калькаваннем іншамоўнага тэксту тлумачацца і іншыя памылкі: ужыванне небеларускіх слоў, іх формаў. Вось некаторыя прыклады.

*"Каханне было мацней грошай"* (нарматыўна: ***"мацнейшае за грошы"***), *створаныя па ўзору* (***на ўзор***), *па выбару* (***на выбар***), *кругаварачэнне* (***кругаварот***), *балкі пад столлю* (***бэлькі***), *Аляксей Міхайлавіч Цішайшы* (***Найцішэйшы***), *дварцовы ансамбль* (***палацавы***), *дасведчаны прававед* (***правазнаўца***), *далёка ідучая праграма* (***далёкасяжная***), *падзел грамадства на багатую вярхушку і гарадскую беднату* (***багатыя вярхі***), *спробы па здзяйсненню уніі* (***спробы здзейсніць унію***), *падтачвалі сілы дзяржавы таксама падаткі* (***падточвалі***), *кіруючая роля* (***кіраўнічая*** роля, г.зн. ***роля кіраўніка***).

Як бачым, навуковыя тэксты патрабуюць да сябе не меншай увагі, чым мастацкія. Аўтары павінны надта ўважліва і адказна ставіцца да стварэння навуковай "прадукцыі", каб яна адпавядала культурна-моўным стандартам, была высокай якасці.



№ 5 (544) 30 СТУДЗЕНЯ 2002 г. НАША СЛОВА

## Віцябляне адгукнуліся

Перад Новым годам Таварыства беларускай мовы ў сувязі з апублікаваннем Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 года звярнулася да кіраўнікоў усіх абласцей Беларусі і горада Менска з адпаведным зваротам. У прыватнасці старшыні Віцебскага аблвыканкаму быў накіраваны ліст наступнага зместу:

*26 снежня 2001 г.*
*№_______*

***Старшыні Віцебскага аблвыканкаму сп. Андрэйчанку У. П.***
***210000, г. Віцебск, вул. Гогаля, 6***

***Шаноўны Аляксандр Серафімавіч !***

***Мы ведаем Вас як адказнага дзяржаўнага дзеяча, які прыхільна ставіцца да беларускай мовы, і таму не сумняваемся, што пад Вашым непасрэдным кіраўніцтвам Упраўленне адукацыі Віцебскага аблвыканкаму разгарнула дзейнасць па выкананні Пастановы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" № 48 ад 27.08.2001 года.***

***Мы лічым, што ў адпаведнасці з пунктамі І.3., ІІІ. 1.2. і V. Пастановы варта было б, у першую чаргу, у верасні 2002 года адкрыць Нацыянальныя гімназіі з беларускай мовай навучання ў Віцебску, Наваполацку, Оршы, Глыбокім, Навалукомлі і Паставах, а таксама стварыць беларускамоўныя аддзяленні ў ВНУ Віцебска і Полацка. Гэта станецца, на нашу думку, першым рэальным крокам па выкананні пункта перадвыбарчай праграмы кіраўніка нашай дзяржавы аб рэальнай роўнасці беларускай і рускай моваў.***

***Паведаміце нам, калі ласка, якія захады па рэалізацыі вышэйзгаданай Пастановы Вамі ўжо зроблены.***

***Прыміце нашыя Навагоднія і Калядныя віншаванні.***

***З павагай***
***Старшыня ТБМ Алег Трусаў.***

У якасці адказу ў Таварыства паступіла "Праграма дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі Віцебскай вобласці".

Сакратарыят ТБМ лічыць, што такі падход віцяблян можа служыць прыкладам для іншых абласцей Беларусі.

Сакратарыят з задавальненнем адзначае, што ва ўсіх раёнах Віцебшчыны, акрамя Чашнікаў, функцыянуюць арганізацыі ТБМ.

**ЗАЦВЕРДЖАНА**
**Начальнік упраўлення адукацыі**
**Віцебскага аблвыканкаму Н. М. ГІРСА**

## ПРАГРАМА

### дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі Віцебскай вобласці

| Мерапрыемствы | Тэрмін выканання | Адказныя |
|---|---|---|
| **Арганізацыйныя мерапрыемствы** | | |
| 1. Прааналізаваць моўны рэжым ва ўсіх тыпах навучальных устаноў і вызначыць перспектыву развіцця сеткі школ, дашкольных устаноў, ПТВ, сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў з беларускай мовай навучання. | Да 1 траўня 2002 г. | Упраўленне і аддзелы адукацыі |
| 2. Пашырыць сетку школ з ухілам, гімназій, ліцэяў з арганізацыяй навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускай мове. | З 2002 – 2003 навучальнага года | Аддзелы адукацыі гарвыканкамаў |
| 3.Ажыццявіць паступовы перавод на беларускую мову візуальнай інфармацыі ў навучальна-выхаваўчых установах | З 2002-2003 навучальнага года | Кіраўнікі устаноў |
| 4. Пашырыць вядзенне справаводства на беларускай мове. | З 2002 г. | Аддзелы адукацыі |
| 5. Забяспечыць ужыванне беларускай мовы пры правядзенні сходаў, нарад, пасяджэнняў, педагагічных саветаў школ, ПТВ, педкаледжаў і дзіцячых дашкольных устаноў. | Пастаянна. | Кіраўнікі ўстаноў адукацыі |
| 6. Развіваць разнастайныя формы пазакласнай работы па беларускай мове і літаратуры: факультатывы, гурткі, літаратурныя студыі і г.д. Пашырыць сетку фальклорных калектываў, гурткоў па вывучэнні беларускай народнай творчасці ў школах і пазашкольных установах, ПТВ. Практыкаваць правядзенне ў вучнёўскіх калектывах беларускіх абрадавых урачыстасцяў, вечароў песні і танцу, нацыянальнай фальклёрнай музыкі, гутарак, лекцый і іншых мерапрыемстваў аб мінулым Беларусі, гісторыі яе культуры, мовы. | Пастаянна | Кіраўнікі ўстаноў адукацыі |
| 7. Пашырыць сетку школьных літаратурных, краязнаўчых, этнаграфічных, музеяў вядомых дзеячоў беларускай культуры. | Пастаянна | Упраўленне, аддзелы і ўстановы адукацыі |
| 8. Распрацаваць і пастаянна абмяркоўваць уласныя праграмы дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ва ўстановах адукацыі раёнаў і гарадоў вобласці. | Да 1 лістапада 2001 года | Загадчыкі рай/гар/аа, кіраўнікі ўстаноў |
| **II. Сістэма дашкольнага выхавання** | | |
| 1. Пашырыць сетку дзіцячых дашкольных устаноў з беларускай мовай выхавання і навучання ў гарадской і сельскай мясцовасці. Забяспечыць у іх выхаваўча-навучальны працэс, вядзенне справаводства і дакументацыі на беларускай мове. | 2002-2003 навучальны год | Райгараа |
| 2. Вызначыць у кожным раёне апорныя дашкольныя ўстановы з арганізацыяй комплекснай работы па развіцці беларускай мовы, азнаямленні дзяцей з культурнай спадчынай Беларусі. Распрацаваць перспектыўны план развіцця беларускамоўных апорных дашкольных устаноў. | З 2002-2003 навучальнага года | Райгараа |
| 3. Забяспечыць курсавую падрыхтоўку педагагічных работнікаў беларускамоўных дашкольных устаноў па беларускай мове. | Пастаянна | АблУА, ІПК |
| 4. Прыняць меры да поўнага забеспячэння дашкольных устаноў, якія ажыцяўляюць працэс выхавання на беларускай мове, выхаваўча-метадычнай літаратурай. | Пастаянна | Райгараа |
| **III. Сістэма школьнай адукацыі** | | |
| 1. Пашырыць сетку агульнаадукацыйных школ з беларускай мовай навучання ў гарадской мясцовасці. У кожным раённым цэнтры, раёне гарадоў адкрыць не менш адной школы з беларускай мовай навучання. | З 2002-2003 навучальнага года | Упраўленне, аддзелы адукацыі |
| 2. Ажыццяўляць паступовы перавод школ-інтэрнатаў для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў на беларускую мову навучання і выхавання, забяспечыць іх адпаведнай вучэбна-матэрыяльнай базай. | З 2002-2003 навучальнага года | -- // -- |
| 3. Прысвойваць лепшым школам вобласці ганаровае званне "Узорная беларускамоўная школа". | 2001-2005 г. г. | -- // -- |
| 4. Правесці абласны конкурс на лепшага руплііўца роднага слова. | Травень 2001 – травень 2002 г.г. | -- // -- |
| 5. Прыняць неабходныя меры па забеспячэнні ў беларускамоўных школах (класах) выкладання прадметаў вучэбнага плана на беларускай мове. | Пастаянна | -- // -- |
| 6. Павялічыць колькасць школ і класаў з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры, укамплектаваць іх высокакваліфікаванымі кадрамі, вучэбнай і метадычнай літаратурай. Стварыць у гарадах і райцэнтрах вобласці апорныя школы з паглыбленным вывучэннем гэтых прадметаў. | З 2002-2003 навучальнага года | -- // -- |
| **IУ. Сістэма прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі.** | | |
| 1. Прааналізаваць моўны рэжым ва ўсіх тыпах навучальных устаноў і вызначыць перспектыву развіцця сеткі ПТНУ, якія маюць групы з беларускай мовай навучання. | Да 1.01.2002 | Упраўленне адукацыі, абласны ВМЦ прафтэхадукацыі, саветы навучальных устаноў |
| 2. Распрацаваць план пераводу навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускую мову выкладання у шэрагу ПТНУ. Ажыццявіць выкладанне на беларускай мове прадмета: "Гісторыя Беларусі" | Пачынаючы з 2003-2004 нав.года | Упраўленне адукацыі |
| 3. Ажыццявіць паступовы перавод на беларускую мову візуальнай інфармацыі ў прафесійна-тэхнічных навучальных установах. | Пачынаючы з 2003-2004 нав.года | Упраўлене адукацыі |
| 4. Пашырыць пералік вучэбна-планавай дакументацыі па беларускай мове. | -- // -- | Кіраўнікі ПТНУ |
| 5. Забяспечыць ужыванне беларускай мовы пры правядзенні педагагічных саветаў, нарад і інш. у прафесійна-тэхнічных навучальных установах. | -- // -- | Упраўленне адукацыі, кіраўнікі навучальных устаноў |
| 6. У шэрагу ПТНУ сельскагаспадарчага профілю, ПТВ, якія рыхтуюць кадры для гандлю, грамадскага харчавання, бытавога абслугоўвання, легкай прамысловсці, машынабудавання адкрыць аддзяленні для навучання на беларускай мове па прыярытэтных прафесіях. | -- // -- | Кіраўнікі устаноў адукацыі |
| 7. Увесці вывучэнне беларускай сімволікі, народных звычаяў і абрадаў у пазакласнай рабоце. | -- // -- | Упраўленне адукацыі кіраўнікі навучальных устаноў |
| **У. Сістэма сярэдняй спецыяльнай адукацыі.** | | |
| 1. Распрацаваць перспектыўны план адкрыцця беларускамоўных плыняў у Аршанскім і Полацкім педагагічных каледжах. | Сакавік 2002 г. | Кіраўнікі навучальных устаноў |
| 2. Адкрыць у педкаледжах вучэбныя групы, аддзяленні з беларускай мовай навучання і пашырыць перавод навучальна-выхаваўчага працэсу на беларускую мову. | З 2002-2003 навучальнага года | Кіраўнікі ўстаноў |
| 3. Па ўзгадненню з Міністэрствам адукацыі ўводзіць у педкаледжах абавязковы ўступны экзамен па беларускай мове. | З 2002-2003 навучальнага года | Кіраўнікі ўстаноў |
| **УІ. Сістэма павышэння кваліфікацыі.** | | |
| 1. У ІПК і ПКР і СА стварыць неабходныя ўмовы для павышэння кваліфікацыі па беларускай мове ўсімі катэгорыямі педагагічных работнікаў. | Пастаянна | Кіраўнікі ўстаноў |
| 2. Арганізаваць сістэматычную і мэтанакіраваную работу па выяўленні, вывучэнні, і асвятленні перадавога педагагічнага досведу настаўнікаў і выкладчыкаў беларускай мовы, выхавацеляў дзіцячых дашкольных устаноў. | Пастаянна | ІПК І ПКР і СА<br>ІПК і ПКР і СА |
| **УІІ. Сістэма пазашкольнай работы** | | |
| 1. Прыняць удзел у рабоце Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў "Наш край". | 2001-2004 г.г. | Абл. аб'яднанне па арг. пазашкольнай работы |
| 2. Правесці абласную навукова-практычную канферэнцыю "Далейшыя шляхі развіцця школьнага краязнаўства на Віцебшчыне". | сакавік 2002 г. | -- // -- |
| 3. Правесці міжнародную канферэнцыю "Гісторыя славутага беларускага роду Гуркаў-Рамейкаў". | красавік 2002 г | -- // -- |
| 4. Арганізаваць метадычную выставу творчых прац і даследванняў педагогаў і навучэнцаў вобласці па краязнаўству і беларусазнаўству. | люты | -- // -- |
| 5. Правесці конкурс на лепшы метадычны матэрыял па краязнаўству. | кастрычнік-сакавік 2001-2002 г. | -- // -- |
| 6. Прадоўжыць работу абласной літаратурнай гасцёўні "Крынічка". | 2001-2004 г.г. | -- // -- |
| 7. Прэзентаваць зборнік вершаў юных паэтаў і кампазітараў "Зоркі Прыдзвіння". | кастрычнік 2001 г. | -- // -- |
| 8. Здзейсніць літаратурны круіз. | снежань | -- // -- |





*Да 60-годдзя Міхася Ткачова*

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

## Гістарычны нарыс

(Апублікавана ўпершыню ў час. "Роднае слова" № 3 за 1992 г. Сам аўтар вызначыў гэты твор як "першы блін з дзежкі мастацкага слова")

За Дзвіною дагараў вечар. Сонца зыркімі, сыпучымі промнямі развітальна лашчыла вастраверхі цэрам, макавіцы драўлянага храма, асадзістыя вежы новага полацкага дзядзінца. Яшчэ нядаўна, год таму назад, Усяслаў са сваім дваром, сям'ёю і чэляддзю жыў на старым гарадзішчы. Утульнае родавае гняздо, што колькі стагоддзяў займала вяршыню высокага вострава-пагорка пасярод Палаты, стала цеснаватым. Пас абарончага вастраколу да апошняй мяжы заціснуў жыццё на пляцоўцы Гарадзішча. Княскі двор, які абстаўлены невялікімі дамкамі гараджан так, што на вуліцы два вершнікі ўжо з цяжкасцю раз'язджаліся, здавалася, стаў задыхацца ад пульсуючага дзённага віру рамеснікаў, купцоў і прыезджых гасцей з паўночных зямель і нямецкага берага. "А калі, барані Бог, пажар, - усё і ўсе апынемся на небе", - не раз з трывогай думаў малады князь. Асабліва падахочвалі яго перасяліцца бліжэй да Дзвіны, на яе высокі і стромкі бераг знаёмыя варажскія госці. Кожны раз, ідучы па вуліцы цеснага горада да князя на паклон з дарамі, яны круцілі носам і азіраліся, бо ў любы момант з-за брамы маглі плюхнуць на маставую балею з бруднаю вадою ці выкінуць нейкія нечыстоты.

Усяслаў заўсёды іх цёпла прымаў, частаваў розным харчам і півам, асабліва сычаным мёдам, ад якога заморскія госці на вачах быццам плавіліся і млелі, лезлі абдымацца, зрывалі з сябе дарагія ўборы і кідалі да ног Усяслава.

- Канунг Усяслаў! - не раз гаварылі яму захмялелыя госці. - Слава пра твой Полтэскуборг ідзе па зямлі шведскай і па гатландскім беразе. Ты - магутны і багаты князь, а якая ў цябе сталіца? Яе даўжыня на адно стралянне з лука. Нашы караблі з таварам не могуць падплысці да тваіх прычалаў, бо рэчка Палата плыткая. Тавары даводзіцца лішні раз перагружаць. Купец - чалавек заняты, яму трэба спяшацца. Час - гэта золата, грошы!

Усяслаў слухаў, ківаў галавою, пагаджаўся, але было бачна, што ён сам па сабе. Разумны талмач, які перакладаў князю застольную размову і п'яныя парады гасцей, добра ведаў свайго гаспадара. Бачыў, што ёсць у яго на сэрцы вялікая дума, але не падзяліцца ўслых, мусіць, ні з кім. Раз толькі, пасля доўгай размовы з госцем-арабам, які праз Царград і Кіеў з цяжкасцю дабраўся у Полацак, прагаварыўся малады князь. А цікавая тады была гаворка...

Гандлёвы караван гэтага госця з'явіўся нечакана. Дальняя застава яго праспала, а бліжняя ледзьве паспела паведаміць, што ў Полацак рухаецца гандлёвы караван якогасьці басурмана. Шнур гэтага каравана выцягнуўся з лесу і меў дзіўны выгляд. Наперадзе вялі на повадзе нагружаных мяхамі з таварам коней нанятыя ў Кіеве чаляднікі і дарожнікі. Затым у сярэдзіне каравана вялі таксама на повадзе нябачную тут жывёліну: вялікую, гарбатую, цыбастую з праціўнай храпатай мордай, адвіслымі губамі, рэшатападобнымі капытамі-ступакамі і маленькім хвастом-палачкай. На гарбу гэтага страшылішча мясціўся нейкі будан з тканіны, з якога, як вараня з гнязда, раз-пораз высоўвалася галава чырванатварага чалавечка. Ён меў чарнявыя вусы, даўгаваты нос, што кручком перагінаўся праз вусы. На галаве была накручана белая тканіна. У правым вуху паблісквала залатая завушніца. Кожны раз, калі гэты дзівак высоўваўся са свайго суконнага гнязда, ён штосьці крычаў, прарэзліва і гартанна, і тады караван прыбаўляў хады.

Прыход купецкага каравана ў Полацак - заўсёды падзея. А тут такія нябачныя дзівосы!

Пакуль паром з гарбатым страхоццем пераплываў Дзвіну, на бераг высыпаў ці не ўвесь горад. Першымі, як заўсёды, былі дзеці. Яны сыпаліся з гары да вады, як кулі. Смялейшыя - спераду, пужлівыя хаваліся ззаду. Гарадскі старац і княжацкі дворны з талмачамі выйшлі наперад. Маленькі купец, рухавы, у дарагім чырвоным халаце, прыклаў руку да лба, сэрца, пакланіўся і загаварыў. Талмачы пераглянуліся - мова ім была невядомая. Тады адзін кіянін, што суправаджаў караван, сказаў штосьці госцю і той загаварыў на іншай мове, якая нагадвала птушынае шчабятанне. Гэта талмачы зразумелі: купец прамаўляў па-грэчаску.

Госця, як гэта патрабаваў звычай, размясцілі на заезным гасцінным двары. Склалі тавары ў моцную клець. Найбольш клопату было з жывёлай, асабліва з "страшылішчам", які не ўлазіў у дзверы стайні, як яго ні цягнулі за повад.

Разявак сабралася вакол - і старых, і малых.

- Гэта ж трэба, такая ўродзіна, - казаў адзін здаравенны мужчына. Расставіўшы шырока ногі і ўпёршы кулакі ў бакі, ён заходзіў і збоку, і ззаду, і спераду. - І каб табе зварухнулася, - разважаў гараджанін. - Бач, і жвачку жуе, як карова. Ну ты скажы, - не сунімаўся разявака. - А ў дзверы не лезе. А ну-ка, дайце я яго за повад пацягну.

Вярблюд нейкі час цярпліва стаяў, толькі ўскідваў высока галаву, калі мужчына шморгаў за повад. Але потым яму гэта ўсё надакучыла, і ён, пажаваўшы сваімі віслымі губамі, раптам як плюнуў на настыру і патрапіў проста на грудзі.

Што тут пачалося! Люд клаўся ад рогату. Мужык, які спачатку аслупянеў ад нечаканага падарунка, ад злосці хацеў садануць па храпе гэтаму клятаму гарбаносу, але той так задраў галаву, што ўровень са страхою стайні.

- Ну, што, Клімята, - смяяліся палачане з разгубленага разявакі. - Відаць, плюнуў з паўвядра на цябе. Ледзьве ўстаяў, братка. Гізуй на Дзвіну, палашчы кашулю, а то жонка на парог не пусціць. Падумае, што гэта ты сам так абслюнявіўся!

Небарака пашыўся правулкамі да вады, лаючыся і плюючыся ад злосці.

Назаўтра купец прадстаў перад князем Усяславам.

...Госць прыйшоў перад вячэрай у суправаджэнні слуг, якія папарна неслі падарункі. Гэта былі скруткі двух вялікіх тканых дываноў для самога князя і яго жонкі, сувойчык кітайкі шляхетнага пурпуровага колеру (араб ведаў, што права насіць адзенне такога колеру мела толькі княжацкая сям'я і яе род), прыгожыя халаты з атласу і адамашку. Неслі асобна вялікую залатую чару, прывезеную з Нубіі, шаблю дамаскай сталі і работы, добрую жменю самацветаў у пушачцы са слановай косці. А яшчэ кораб заморскай садавіны, праўда, вяленай і сушанай; тут былі і фінікі, і разынкі, і дыні, што мядовымі скібамі яшчэ нядаўна прадаваліся на канстанцінопальскім прыморскім базары. Базар - па-арабску "справа ля варот". І сапраўды той кірмаш быў ля гіганцкіх варот імператарскай сталіцы. А справа на ім - у кожнага купца!.. Толькі трымай у руках каліту з грашыма ды пільнуй, каб галава не абмарочвалася... Адным словам, уся гэта садавіна была закуплена ў Канстанцінопалі з разлікам на дзяцей.

- Алах акбар! - склаўшы далоні лодачкай, ветліва пакланіўся князю заезджы купец і хітра бліснуў вачыма.

- Слава Ісусу Хрысту! - адказаў па-грэчаску Усяслаў.

- О, вялікі султан гаворыць па-візантыйску?! - узрадаваўся араб. - Мір дому твайму, здароўя жонкам і чадам тваім, благаславенны будуць статкі твае. Алах літасцівы, памажы і нам! - Ён яшчэ раз пакланіўся і пляснуў два разы ў далоні. Слугі выйшлі наперад і паклалі перад Усяславам дарункі.

- Прымі, вялікі Сулейман, маё паднашэнне як прывітанне і падзяку за гасціннасць і надзею, што караван мой яшчэ не раз прыйдзе ў тваю благаславенную сталіцу.

Усяслаў нахіліў прыветна галаву і, усміхнуўшыся ў пшанічныя вусы, сказаў лагодна і спакойна:

- Няхай не аскудняюць твае, госць, багацці, а душа захавае мір і павагу да ўсіх добрых людзей. Праходзь, купец, да майго стала, госцю - сядзець праваруч ад мяне.

Усяслаў сеў за цясовы стол на высокае драўлянае крэсла і побач пасадзіў купца.

- Як жа завуць цябе, паважаны чужаземец, адкуль пралёг у Полацак твой шлях?

- Я - дамаскі купец, сын купца і ўнук купца. Імя маё - Селім Мухамед, - адказаў госць, спрабуючы сесці на крэсла, падкурчыўшы крыж-накрыж ногі. Але сядзелася яму кепска, то адна, то другая нага саслізгвала. Ён ёрзаў, торгаўся, круціўся, як сарока на калку.

Усяслаў заўважыў гэта і, хітравата глянуўшы на госця, загадаў слугам:

- А пасцяліце-ка нам на падлозе адзін з тых дываноў, стаўце на дол усю гэту снедзь. Госцю трэба павагу аказаць, ды і спадручней будзе весці бяседу.

Отракі-грыдні хоць і здзівіліся загаду, але выгляду не падалі. Яны раскацілі дыван і застылі ў нерашучасці: такіх прыгожых, яркіх і чыстых колераў было гэта рукатворнае дзіва. З цікавасцю глядзеў на яго і Усяслаў - сапраўды краса незвычайная.

Купец ацаніў становішча і, узрадаваны, загаварыў, радасна і хутка:

- Гэты цуд саткалі рабыні аднаго султана ў Аравіі. Вярблюжая воўна, ссуканая ў ніці іхнімі пальцамі, фарбавалася многімі фарбамі, якія прывезлі з Індыі і Цэйлона. Я сам не раз прывозіў іх. Дыван не паліняе, ён не баіца сонца, вады. Улетку на ім прахалода, а зімою цёпла.

- Тады сцяліце, отракі, зверху абрус і стаўце туды гэтых лебедзяў, качак, асятра, зеляніну, кладзіце хлеб. Будзем вячэраць.

На падлозе Селім адчуваў сябе куды лепей. Ён цвёрда, як уліты, сядзеў на падкручаных нагах. Скінуўшы свае вастраносыя чаравікі, ён куляўся то на адзін бок, то на другі. Кінутая яму пад рукі падушка пераязджала, як жывая, і здавалася - яна яго неадрыўная частка. Госцю было зручна. Затое Усяслаў нібы памяняўся з ім ролямі. Сядзець, скруціўшы ногі, было вельмі нязручна. Ногі млелі, але куды выпрастаць - перад табою стравы. Сядалішча пачынала дзеравянец, спіна адымацца і ныць. Урэшце ён стаў на калені і гукнуў грыдню:

- Падай мне маленькі зэдлік.

На зэдліку, зробленым з расчэпленага ствала елкі з укарочанымі сукамі, стала сядзець і гаварыць лепей. Бяседа працягвалася.

- Раскажы, паважаны купец Селім, што новага на свеце, у Канстанцінопалі. Дзе, па якіх землях пралёг след твайго каравана? Мне сказалі старцы, што тавараў ты прывёз не шмат. Значыцца, хочаш купіць нашы тавары за гатовыя грошы?

Госць, адолеўшы добры кавалак смажанага асятра, абцёр вусны, рукі і пачаў свой аповяд.

- Вялікі султан Усяслаў! Купец - гэта пасланец мудрасці Алаха: ён - іголка, а яго караван - гэта нітка, якая сшывае ў адно палатно кавалкі розных зямель. Благаславенны прарок Мухамед называў гандаль соллю жыцця, без якой усе стравы будуць прэсныя і нясмачныя. Усе мае сем братоў таксама купцы. Як і я, яны бываюць у дзіўнай краіне Індыя і бязмежным людскім акіяне-краіне Сіна. Благавонь, слановую косць і пярліны мы возім з вострава Цэйлон. З Абісінскіх гор - золата і дзіўныя камяні. З земляў Куябы - футра сабалёў, куніц, бабровы струмень.

Я ж прыехаў у тваю зямлю па іншы тавар. Па ўсёй Аравіі ў гарэмах султанаў і эміраў цэняцца нявольніцы-рабыні з тутэйшых зямель. Многія знатныя людзі Усходу плацяць за такі тавар любыя грошы. Вашы рабыні - гэта неацэнныя самацветы, якія набываюць казачную цану, калі ім даць апраўу з золата, серабра, апрануць у прыгожыя адзенні. Такая рабыня ў гарэме лёгка можа заваладаць сэрцам любога правіцеля. Рызыкуючы жыццём, я прабіраўся ў твой лясны край, каб за грошы - вялікія грошы - набыць два дзесяткі маладых і прыгожых нявольніц. Справа - вартая рызыкі. Калі мне ўдасца купіць тое, што мне патрэбна, я аддзячу з усёй шчодрасцю. І потым мае караваны пракладуць сюды, у твой край, сваю дарогу.

(Заканчэнне на ст. 6.)




**Мастацкі маркаваны канверт, выпушчаны "Белпоштай" да 900-годдзя з дня смерці Усяслава Чарадзея**

*Да 60-годдзя Міхася Ткачова*

# УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ

## Гістарычны нарыс

(Апублікавана ўпершыню ў час. "Роднае слова" № 3 за 1992 г. Сам аўтар вызначыў гэты твор як "першы блін з дзежкі мастацкага слова")

*(Заканч. Пачатак на ст. 5.)*

Усяслаў спахмурнеў. Такіх купцоў ён яшчэ не сустракаў. Такім гандлем ніколі не займаўся і не будзе.

- Купец Селім! У маёй Полацкай зямлі ўсе людзі вольныя, рабоў і нявольніц няма. Нават калі ў час якога паходу і бяром паланянінаў, мы ўсім ім даём права жыць і працаваць свабодна. Паланянкі выходзяць замуж і становяцца свабоднымі.

- Але ж вялікі султан такі багаты! Ён можа пракарміць 50 жонак. Я таксама багаты, але ў мяне толькі чатыры жонкі. Больш нельга паводле Карана, і Алах меце не дазваляе.

- Наша вера, наш Бог забараняе мець шмат жонак. У нас, хрысціян, жонка адна.

Каб перавесці размову на нешта іншае, Усяслаў запытаўся пра тое, што яго вельмі цікавіла.

- А скажы, купец Селім, ці праўда, што ў тваёй далёкай краіне шмат адукаваных, пісьменных людзей. Казалі мне нашы госці, якія ходзяць з таварамі ў Царград, што нават апошні купецкі прыказчык у вас ведае пісьмо, можа лічыць, чытаць кнігі, пісаныя на пергаменце.

- О, кнігі! – купец, які было трохі страціў імпэт пасля адказу князя аб нявольніцах, ажывіўся ізноў. – У нашай блаславёнай Алахам Аравіі кнігі чытаюцца і шануюцца бадай што ў кожнай сям'і. У нас, мусульман, у школу ходзяць усе дзеці – багатыя і бедныя, хлопчыкі і дзяўчынкі. У Аравіі шмат школ – пачатковых у малых паселішчах і большых – у буйных гарадах. З іх найбольш дасціпныя трапляюць у медрэсе, якія маюць славу на цэлым Усходзе. Там вучаць навукам мудрэйшыя з мудрых...

- Але ж ты, купец, відаць, залішне хвалішся. Няўжо і дзеці простых людзей ходзяць у школы і сядзяць разам з дзецьмі князёў і баяр? Для чаго гэта робіцца?

Араб паблажліва глянуў на Усяслава і прапусціў праз пальцы пафарбаваную хною рэдкую барадзёнку. Узняўшы вочы да столі, ён прыжмурыўся і стаў з асалодай гаварыць.

- Вялікі султан! Навука і пісьменнасць дае дзяржаве вялікую сілу. Чым больш пісьменных людзей, тым лепш ладзіцца жыццё...

- Але ж смерду, селяніну – навошта грамата? – перабіў Усяслаў апавядальніка.

- І са смерда можа атрымацца мудры чалавек, які пачне памагаць вучыць іншых людзей. Гэта добра для гаспадаркі, гандлю, гэта спатрэбіцца ў час вайны. Ваяваць жа трэба не толькі зброяй, але і галавой. Наша медрэсе Аль-Ахзар у Каіры існуе больш за два з паловай стагоддзі. А год назад у дарагім мне Багдадзе візір Нізамі-ал-Мульк залажыў медрэсе Нізамійя. У кожным з іх адразу вучыцца тысячы студэнтаў, - працягваў хваліцца госць.

- Няўжо тысячы?

- Тысячы, мой султан. І з розных зямель. Яны жывуць зямляцтвам. І там ёсць вучні з Персіі, Пуштуністана, Самарканда, Бухары і многіх іншых краін. Яны вучаць слова Божае, свяшчэнны Каран, права, паэтыку, рыторыку, логіку і астраномію.

- Тысячы вучацца, - задуменна разважаў Усяслаў. – А хто працуе, хто іх корміць? Гэта ж такую дружыну пракарміць – вунь колькі ўсяго трэба...

- А на гэта, мой дарагі султан, даюць грошы і купцы, і імамы, і султаны. І мячэць наша грошы не шкадуе. Ды і самі яны працуюць, вучаць дзяцей па дамах. З нядаўніх часоў усім студэнтам і іх настаўнікам плацяць грошы на пражыццё, даюцца прылады пісьма, кожнаму даецца лямпа, добра напоўненая алеем. Гэта каб і вечарам можна было чытаць і пісаць. У нашым Багдадзе – хай сцеражэ гэты райскі горад міласэрны Алах – для студэнтаў ёсць спецыяльныя дамы з кухнямі, лазнямі і шпіталямі, дзе штодня служыць лекар. Там ёсць вялікая бібліятэка з мудрымі кнігамі, якімі кожны можа свабодна карыстацца. На закуп кніг даюць грошы жыхары Багдада.

- Ну як жа можна такія дарагія рэчы, напісаныя на пергаменце, з дарагімі дошкамі-акладамі, даваць кожнаму ў рукі?

- Вялікі султан, - хіхікнуў купец, - нашы кнігі ўжо даўно не пішуцца на пергаменце. Гэта вельмі дорага і патрабуе шмат працы для вырабу скуры.

- Дык на чым жа вы пішаце?

- У нас, у Багдадзе, ужо два з паловай стагоддзі пішуць на паперы, якую вырабляюць з ільняных валокнаў. Але прыдумалі гэта белае дзіва не мы, а майстры ў Самаркандзе і Бухары. З Багдада яно трапіла ў Егіпет і Марока. Я падарую табе, мой султан, дзве кнігі. Адна з іх – кніга ўсіх мусульман.

- Каран, святое слова Алаха, - і ён, дастаўшы з-пад халата, пацалаваў Каран і працягнуў Усяславу. – Каран напісаны па-арабску. Але табе падару яшчэ адну кнігу, пісаную па-грэчаску. Гэту ты лёгка прачытаеш. А называецца кніга "Александрыя", пра вялікага палкаводца Грэцыі Аляксандра Македонскага.

І араб працягнуў другую кнігу. Яе вокладка, абцягнутая сінім адамашкам, загадкава і таямніча свяцілася і блікавала ад святла мноства свечак.

- Табе, мой султан, мужу і воіну, гэтую кнігу трэба абавязкова прачытаць. Яна надае сілы і цікавасць да жыцця і ваенных паходаў.

- Дзякую за шчодры дарунак. – Усяслаў прыклаў руку да сэрца. – Пра вялікага Аляксандра я ўжо чуў ад мудрых людзей, манахаў з Царграда, што жылі ў нас у Полацку пасля хрышчэння палачан. Цяпер з радасцю пачытаю.

Ён аддаў грыдню кнігі і загадаў аднесці ў апачывальню.

- Чытай, вялікі султан. Вялікая карысць бывае чалавеку ад вучэння кніжнага.

- У нас у Полацку кажуць: "Кнігі – гэта рэкі, якія пояць увесь свет, з іх зыходзіць мудрасць; кніга — бяздонная глыбіня..."

- А мы, арабы, яшчэ кажам, што кніга – гэта калодзеж, выкапаны іголкаю і сваім розумам. – І госць радасна рассмяяўся.

Потым яны яшчэ доўга гаварылі пра веру, пра храмы. Араб гарачыўся і казаў, што мураваная мячэць – найлепшы будынак для размовы з Алахам. Усяслаў хмурыў бровы і даказваў, што драўляны храм лепшы для дома Божага. Там больш свабодна дыхаецца, дрэва цяплейшае для вока і для душы. Але араб не здаваўся.

- Твая драўляная мячэць, вялікі султан, можа згарэць разам з усімі кадзільнямі і абразамі. Можа быць і маланка, і неасцярожнае абыходжанне з агнём. Сухое дрэва – ой, як добра гарыць!

- Ну, Бог літасцівы, ён не дапусціць, - упэўнена запярэчыў князь.

- Алах акбар, няма ў свеце прарока, акрамя Алаха! Але сцеражонага – прарок сцеражэ...

Разышліся апоўначы! А на раніцу прыйшоў заезджы купец развітацца з Усяславам. Ён ад'язджаў са сваім караванам у Віцебск, а адтуль збіраўся падацца да Смаленска. Араб усё ж не траціў надзеі купіць жаданы жывы тавар. На тым і рассталіся...

А праз дзень дзве страшныя весткі абрынуліся на Усяслава, які ад'ехаў на паляванне ў няблізкую Дрыскую пушчу. Конны служка прыляцеў у паляўнічы стан і паведаміў, што нейкія разбойнікі забілі і абрабавалі араба Селіма і яго караван. Здарылася гэта на левым беразе Дзвіны, за сяльцом Казьянкі, на ўзлеску.

Князь спахмурнеў і са злосцю сekануў бічом па кусце. Такога яшчэ не было ў яго Полацкай зямлі, каб замежнага госця абабралі.

А тут яшчэ і забілі.

Усяслаў тут жа паслаў двух верных баяр правесці вышук і знайсці забойцу хоць пад зямлёй.

Набліжаўся вечар. Сонца на захадзе імкліва зацягвала хмарамі. Усчынаўся вецер, а за ім забарабаніў па лісці дождж.

- Начуем тут, загадаў Усяслаў.

Отракі і сакольнічыя ўмомант нацягнулі намёты, атабарыліся.

Неба пачало грукатаць. Маланкі бліскучымі пугамі паласавалі цемру над галавой. Гучна ляскатаў і біў Пярун.

Усяслаў толькі раз перахрысціўся і падумаў, што калі так Пярун жахне ў цэрам, то і выскачыць ніхто не паспее, прападуць...

Амаль цэлую ноч гневалася неба, а на раніцу ўсё сціхла, і над абмытай і прычасанай дажджом зямлёй, над далёкім лесам узышло сонца. Але бог Ярыла не прынёс радасці. Наадварот, прыскакаў новы пасланец з Полацка і, баязліва цicкаючы ў руках шапку, паведаміў:

- Княжа... Сёння ноччу маланкай спаліла царкву над Дзвіною.

"Ну вось, збываюцца прароцтвы таго арабскага госця", - падумаў з адчаем Усяслаў. Уздыхнуў, перахрысціўся і ўскочыў на каня.

- За мной.

... Над пажарышчам яшчэ віўся дым, востра пахла залітымі вадою галавешкамі. Груда спаленага бярвення сіня-чорнымі рэбрамі тырчэла над руінамі колішняй будыніны. Купай стаялі гараджане, узбуджаныя, рагубленыя. Ігумен падышоў да Усяслава і ўзняў да яго чырвоныя ад слёз і дыму вочы.

- Бяда, сыне...

- Бачу, - Усяслаў цяжка сышоў з каня і пацалаваў ігумену руку, той благаславіў князя. – Нічога, дасць Бог, - адбудуем. Ды яшчэ лепшую паставім! Чуеце, - звярнуўся ён да грамады палачан, - паставім новы храм, мураваны. Нічога не пашкадую, і зробім на векі вечныя, каб стаяла ад нас тут памяць будучым пакаленням. Зробім не горш, як у Кіеве і Ноўгарадзе Вялікім. І нарачом храмам святое Сафіі. Сафіі – прамудрасці Божай!

- Бог у помач! – загула грамада. – Пасобім і мы, чым здолеем. Пойдзем з шапкаю па крузе. Кожны двор дасць ад шчырага сэрца.

- Ну, калі так, то дзякую вам, мілыя палачане. Б'ю вам чалом. Будзем разам, - і ён пакланіўся грамадзе. Тая адказала дружным паклонам і праяснела тварамі.

***Міхась Ткачоў.***

---

*У газеце "Наша слова" № 3 (542) за 16 студзеня 2002 года ў артыкуле "Слова на памяць Самсона Пярловіча" сябры Навагрудскай суполкі "Узвышша" Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны напісалі, што ў 1947 годзе Пярловіч быў асуджаны на дзесяць гадоў зняволення за напісанне верша "Паднімецца крыўда".*

*Самсон Пярловіч (разам з ім і я) 29-30 жніўня 1947 года ваенным трыбуналам войск МУС г. Баранавічы былі асуджаны на 10 гадоў зняволення за прыналежнасць да падпольнай патрыятычнай Беларускай арганізацыі "Саюз Вызвалення Беларусі" (СВБ).*

*Верш "Паднімецца крыўда" быў знойдзены пры арышце. За гэты верш з Менскай турмы "Амерыканка" пакойны Пярловіч быў прыведзены канвоем на кавёр да самага Цанавы, намесніка Берыі па Беларусі.*

*Я разам з Пярловічам прайшоў праз пакуты на лесапавалах Усць-Вым, на будаўніцтве шахтаў у Карагандзе, спаў разам з ім на голых нарах.*

*Прыкладаю верш "Паднімецца крыўда".*
*20.01.2002 г.*
*Сябра Таварыства беларускай мовы*
*імя Францішка Скарыны,*
*пенсіянер* ***Кастусь Рамановіч.***

# Паднімецца крыўда

І ноччу і днём падхалімы скуляць
Пра росквіт жыцця, пра свабоду.
Ад гэтай "свабоды" аж стогне зямля
У "росквіце" тым – сьмерць народу,

Бо Сталін – тыран і старых, і малых –
Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,
Нявіннай крывёй суцяшае іклы,
Каму колькі жыць ставіць нормы.

Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць
Пад страхам, як вязьняў бяспраўных,
Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць
Народа сыноў самых слаўных.

А каб заслужыць і праклёны, і боль,
Кляймом страшным – "вораг народа"
Кляймяць чалавека, ды ўсё штораз больш
Зьнішчаюць людзей з кожным годам.

Калі б удалося ўсе косьці сабраць
Усюды, дзе палі ахвяры,
З касьцей тых, напэўна, узьнялася б гара,
Што рвала б вяршыняю хмары.

А сьлёзы і кроў, што замучаны люд
У горы бязьлітасным выліў,
Каб не праніклі ў матулю-зямлю,
І сонца, мабыць, патушылі б.

Ці ж выцерпіць крыўда? Мільёнам галоў
Яна яшчэ грозна паўстане!
Хіба хто апошнім сумленнем аглох,
Той толькі мо сьцерпіць маўчанне.

**Навагрудак 1947 год.**

***Самсон Пярловіч.***

**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

*І яшчэ адзін неад'емны элемент сейлавіцкай рэчаіснасці.*

### Буслы

Буслы ў Сейлавічах жылі заўсёды. Балотаў было многа. І буслоў было многа. Балоты былі вялікія. Да меліярацыі там жылі і чаплі, і жураўлі, і качкі, і гусі. Лебедзяў не памятаю. Але буслоў было больш за ўсіх. Можа і не больш, але яны жылі навідавоку, не хаваліся, таму і здавалася, што іх больш.

Людзі любілі буслоў, цягалі на дрэвы і стрэхі старыя колы ды бораны, рабілі для буслоў аснову будучага гнязда. За маю бытнасць у вёсцы ўжо не было гумнаў, таму буслы ў асноўным жылі на дрэвах. Дрэваў у Сейлавічах было шмат: таполі, каштаны, клёны, ясені, ліпы. І елкі былі, і бярозы, вядома. Парода дрэва не вызначала, дзе будзе гняздо. Буслы выбіралі месца паводле нейкіх іншых прынцыпаў.



**Сейлавіцкія буслы.** *Здымак 14.04.2001 г.*

Бусел для Беларусі наогул, а для Сейлавіч у прыватнасці – птушка сімвалічная. Бусел прадказваў лёс вёскі. Памятаю, як страшная навіна абляцела вёску: буслы каля Шумскіх павыкідалі буслянят. Уся вёска чакала бяды. З вёскай нічога не здарылася, проста была страшная засуха. У калгасе мала што сабралі. Але на людзях гэта вельмі моцна ўжо не адбілася.

Былі і іншыя годы, калі буслы выкідвалі яйкі. І кожны з гэтых гадоў быў не просты.

Летась у сейлавіцкіх буслоў было чацвёра буслянят, што бывае вельмі рэдка. І з вясны вёска ведала: увесь год будзе ліц, не памыліліся.

З буслам звязвалася і мясцовая варажба. У прынцыпе варажыць то і не трэба было. Дастаткова было першы раз убачыць бусла ўвесну, і ад таго, як хто яго ўбачыў, так і маляваўся лёс.

Калі дзяўчына бачыла першы раз бусла ў палёце, то пойдзе замуж, а калі на гняздзе, то будзе сядзець дома. Калі хлопец бачыў у палёце, то забяруць у салдаты. Важна было ўбачыць бусла ў палёце выпускнікам. Гэта абяцала паступленне. Так што клапатлівай маці было, хоць ідзі ды тога бусла паганяй з гнязда, каб дачушка ўбачыла яго ў палёце.

Летась я першы раз бачыў бусла на гняздзе. Так і было. Вялікіх зменаў не адбылося.

Пасля меліярацыі буслоў станавілася ўсё меней. Заставаўся бусел каля Баўтруся. Гэты бусел быў славуты тым, што Баўтрусь кожную восень наладжваў яму выправы ў вырай. У Баўтруся не было дзяцей, і нам ён з той нагоды падаваўся ваўкаватым і скупаватым. Але кожную восень у яго мабыць было нейкае сямейнае свята, і ён ладзіў банкет. То народ адразу дасціпна назваў гэта выправамі для бусла. Праз колькі гадоў гэтыя выправы сталі традыцыяй. Усе забыліся пра першапрычыну тых банкетаў, а выправы трывалі аж пакуль Баўтрусь не памёр. Ды і бусел перастаў прылятаць. Што здарылася раней сказаць цяжка, а мо і ў адзін год усё адбылося.

Сёння ў цэнтры Сейлавіч засталася адна буслянка, мо дзе на пасёлку ёсць і яшчэ, але ў цэнтры адна. Але гэтая буслянка мае сваю складаную і доўгую гісторыю.

Падняўшы дакументы, можна дакладна сказаць у якім годзе буслы пасяліліся каля Гладоўскіх пры дарозе да школы. Было гэта недзе гадоў 20 назад, пасля таго, як драўляныя слупы электраліній змянілі на бетонныя. Вось на вяршыні гэтага бетоннага слупа, дзе і зачапіцца няма за што, буслы і заснавалі буслянку. Буслянка ляжала проста на электрычных правадах, што аднак нікому моцна не перашкаджала.

Аднойчы вясной буслянку паспрабавалі заняць чужыя буслы. Яны прыляцелі на дзень ці два раней, а нашыя затрымаліся. То людзі сталі сведкамі жорсткай бойкі дзвюх бусліных сямей. Сваіх буслоў людзі пазналі, моцна перажывалі за іх, бо дапамагчы не маглі ж, але затое вельмі радаваліся, калі нашы перамаглі і прагналі чужых.

Буслы мірна суісnavалі з людзьмі аж пакуль над Нясвіжскай электрычнасцю не змяніўся начальнік. Новы пачаў змагацца за тэхніку бяспекі і кантроль ізаляцыі. І буслянка проста на правадах трапіла ў начальніцкае вока. Начальнік быў савецкі, таму першая каманда, якая паступіла: "Скінуць". Людзі спрабавалі запярэчыць, але ж начальства. Электрыкі залезлі і скінулі. За які тыдзень буслы гняздо аднавілі. Праз некаторы час, мабыць ізноў начальнік глянуў на кантроль ізаляцыі. Ізноў электрыкі палезлі скідаць гняздо. І зноў буслы вярнулі ўсё на месца. І так раз за разам. Тады электрыкі пайшлі на хітрасць. Перш, чым у чарговы раз раскідаць гняздо, яны на высокае дрэва, метраў за 50 ад буслянкі засцягнулі кола, маўляў: "Перасяляйся". Але і буслы трапіліся ўпартыя. Яны праігнаравалі кола і зноў зрабілі гняздо на правадах. Вайна працягвалася. Электрыкі ўжо не хацелі ехаць у тыя Сейлавічы, бо кожны раз перш чым дабрацца да гнязда трэба было выслухаць ад людзей усё, што яны думаюць і пра іх саміх, і іх начальства, і Савецкую ўладу. Сейлаўцы ў гэтай вайне цвёрда трымалі бок буслоў. Асабліва заганарыліся сваім буслом пасля страшнай буры, якая была гадоў 5 назад. Тая бура тады наваляла лесу па ўсёй Беларусі, вывернула ладны кавалак Госцібна каля Ганусаўшчыны, паваляла таполі ў вёсцы, пазрывала стрэхі. Аднак бура не скінула буслянку. Бусліха сядзела на яйках, а бусел усю буру стаяў на гняздзе. Людзі глядзелі і дзівіліся: "Якую ж ён сілу мае? Сам гэтакі лёгенькі, а бура здуць не можа".

Людзі, як маглі, баранілі буслоў. Пісалі ў нейкія інстанцыі, як кажуць, "у экалогію". І ці то дапісаліся, ці ў Нясвіжы начальнік змяніўся, ці стары паразумнеў, але, калі электрыкі прыехалі ў чарговы раз, то ўжо не сталі раскідаць буслянку, а знялі. На вяршыню слупа пасадзілі спецыяльна звараную насадку з колам і палажылі буслянку туды. Так урэшце быў дасягнуты кансэнсус паміж прыродай і ўладай адносна пакуль што адной асобна ўзятай буслянкі. І сімвал Беларусі - бусел прадаўжае дагэтуль лунаць над частачкай гэтай Беларусі: Сейлавічамі.

### Мова Сейлавіч

Сейлавічы, як ужо было сказана размешчаны паміж Мікалаеўшчынай (за 14 км) і Нясвіжам (за 10 км), месцамі, дзе нарадзіўся Якуб Колас і дзе ён вучыўся. А паколькі дакладна вядома што ў аснову беларускай літаратурнай мовы лягла мова Коласа, то не дзіўна, што мова Сейлавіч на 99,9% беларуская літаратурная мова. Пры тым такой чысціні, што шмат якім пісьменнікам у навуку ехаць можна.

Разам з тым мова Сейлавіч – жывая мова і яна мае нейкія свае асаблівасці.

Так асаблівасцю сейлавіцкай гаворкі з'яўляецца ўжыванне канчатку *"э"* у назоўным склоне множнага ліку некаторых назоўнікаў мужчынскага роду. Так у Сейлавічах кажуць: ***казлэ*** замест ***казлы***, ***слупэ***, ***баранэ*** замест ***слупы***, ***бараны***. Праўда гэтае *"э"* нейкае невыразнае. Яно характэрнае не толькі Сейлавічам і ў 20-я гады нават хацелі гэты канчатак зрабіць літаратурнай нормай, але – ***"ы"*** перамагло. У Сейлавічах скланяюць замежныя словы ***кіно, паліто***. ***У кіне, у паліце***. Ды калі разабрацца, то ў гэтым ёсць рацыя, бо чаму мы скланяем слова ***віно*** і не скланяем ***кіно***?

У Сейлавічах ужываюцца ці ўжываліся некаторыя словы, якія, як аказалася не з'яўляюцца агульнавядомымі. Адно з такіх словаў ***"сахор"***. Аказваецца такое натуральнае для нас слова не разумеюць ні ў Горадні, ні ў Лідзе, ні ў Мастах. Там кажуць ***"вілы"***. Але кожны сейлавец ведае, што ў вілах два рагі, а ў сахары чатыры, вілы драўляныя, сахор жалезны. Калісьці і сахары былі драўлянымі і мелі не абавязкова чатыры рагі. Тады драўляны сахор адрозніваўся ад вілаў тым, што яго рагі акоўваліся (мелі жалезныя наканечнікі). Магчыма і слова ***"сахор"*** мае аднолькавае паходжанне са словам ***"саха"*** ці паходзіць ад яго, па падабенству таго, як рагі сахара акоўваліся на падабенства нарога сахі.

"Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" 1999 года пад рэдакцыяй М. Р. Судніка і М. Н. Крыўко падае наш ***"сахор"***, як слова літаратурнае.

Не разумеюць у іншых месцах і нашага слова ***"габлі"***. Гэтага слова ўжо няма ў тлумачальным слоўніку. Габлі - прылада працы, якой грузяць бульбу і буракі, вельмі падобныя на сахор, але з большай колькасцю рагоў і рагі тупыя. Але гэта не значыць, што ***"габлі"*** слова не літаратурнае. Проста мова багацей за слоўнікі.

Утварылася слова ***"габлі"*** хутчэй за ўсё ад слова ***"граблі"*** шляхам выпадання гука ***"р"***.

Сейлаўцы ўжываюць словы: ***"Рыдлёўка"***, ***"шуфель"***, ***"шуфлік"***, - але калі гаворка ідзе пра драўлянае начынне, то кажуць: ***"Лапата"***, ***"лапатачка"***.

Наогул, паколькі ў сейлаўцаў няма комплексу кшталту, *"як правільна сказаць па-беларуску"*, таму што, як бы сейлавец ні сказаў, усяроўна гэта будзе па-беларуску, то сейлаўцы ўжываюць увесь спектр лексікі. Так ужываюць словы: ***кош*** і ***карзіна***; ***скрынка***, ***пачак*** і ***каробка***. Кош тлумачыць не трэба, карзіна -- гэта таксама плеценая пасудзіна з ручкай, але, як правіла, формы паралепіпеда, з дном формы паралелаграма. Карзіна, як правіла, выконвалася з элементамі дэкору.

Скрынка, як правіла, з дошак ці дошчачак (скрынка цвікоў), скрыня - вялікая на некалькі кубаметраў пасудзіна для засыпання збожжа, іншая скрыня ставілася на воз для перавозкі сыпучых рэчываў: збожжа, сем'я, пяску, бульбы і г. д.

Пачак звычайна папяровы. Пачак цукерак, пачак пячэння, але і пачак запалак.

Каробка, тое самае, што і ***асьміна*** або ***паўасьміна***. Плеценая з саломы пасудзіна авальнай формы, з ручкамі. Скарыстоўвалася ў якасці сявенькі.

З каробкай хадзілі на вяселле.

Вялікая каробка на 8 кілаграмаў збожжа -- асьміна. Малая -- на 4 кілаграмы -- паўасьміна. Хаця ніхто строга гэтых памераў не трымаўся.

Сейлаўцы ўжывалі поўны набор лексікі для назваў розных відаў посуду.

**Вядро, дайніца** (памятаю яшчэ драўляную, дайніца падобная на вядро, але з адной ручкай), **кубел** (звужаны зверху), маглі сказаць ***"кубелец"***, **цэбар**, маглі сказаць ***"цабэрак"***, **балея**, **дзежка**, **ражка** (падобная на цэбар, у ёй мяшаюць корм жывёле), **ночвы**, **карыта**, **кадушка** і **бочка** (як правіла, кадушка - драўляная, бочка - металічная).

Хатні посуд: **міска, лыжка, відэлец, нож, талерка, талерачка** або **талежык, кубак, шклянка, чарка, кілішак. Збанок, лаханька** (макацёр), **чыгун** (могуць сказаць ***"саган"***, ***"гаршчок"*** казалі рэдка), , **каструля** (слова ўвайшло гадоў 30 назад, да таго шырока ўжывалася слова ***"рандэлек"*** або ***"рондаль"***.

Вялікую каструлю называлі ***"вываркай"***. Ногі мылі ў **тазіку**, але **таз** -- гэта толькі ацынкованы з ручкамі. Вялікую эмалевую місу называлі ***"мядніцай"***.

Шкляны посуд дзеліцца на **бутэлькі, бутлі** і **слоікі**. Трохлітровы слоік мае сваю асобную назву ***"балён"***. Ужываецца слова ***"паўбутэлек"*** (250 гр.).

**Банка** -- гэта строга металічная пасудзіна. Банка пад малако. Банка кансерваў.

Раней ў Сейлавічах ужывалася слова ***"каета"***, якое абазначала **сшытак**. Ніхто з прыезджых яго не разумеў. Паколькі гэтая ***"каета"*** не супадала з назвай сшытка ні ў адной з вядомых моваў, то я пачаў шукаць і знайшоў што ***cahier de – сшытак для…*** па-французску. Неяк жа забрыло гэтае слова, можа з якой гувернанткай. А мо з вайны прывёз французскі партызан. Быў у Сейлавічах і такі. Нажаль прозвішча забылася. Трапіў сейлавец у палон да немцаў неяк уцёк да французаў. Адваяваў вайну ў "маках". Вярнуўся ў Савецкі Саюз, не пабаяўся. Але вярнуўся з пашпартам грамадзяніна Францыі. Хадзіў гэты грамадзянін Францыі спраўна ў калгас, спраўна галасаваў на савецкіх выбарах і згадваў пра свой пашпарт толькі ў выключных выпадках, калі трэба было ў калгасе штонебудзь папрасіць, а яму не давалі. Тады браў французскі пашпарт ішоў у кантору і пачынаў патрабаваць, каб або дошак выпісалі, або ў Францыю адпусцілі. І старшыня лічыў за лепшае выпісаць дошак.

*(Працяг у наст. нумары.)*

*Беларускі гукапіс*

## Ментальнасць беларусаў даследуюць у... "Цацачнай краме"




Становіцца добрай традыцыяй жаданне многіх беларускіх рок-музыкаў рэалізоўваць свае творчыя задумы не толькі ў "родных" калектывах, але ствараць нешта па-за магістральнага рэчышча сваёй творчасці. Дзякуючы гэтаму беларуская дыскаграфія папоўнілася такімі цудоўнымі альбомамі як "З новым годам" гурта "Zet", супольнымі праектамі "Святы вечар", "Я нарадзіўся тут", "Народным альбомам"...

Гэта можа тлумачыцца тым, што музыкам, кампазітарам часта хочацца змены стылістыкі, рытмікі, хочацца выкарыстання новых, няведанных музычных фарбаў, эксперыментаў і пошукаў, якія цяжка праводзіць пад час асноўнай працы. Тут вельмі важна, не згубіцца, як творчай асобе, не размяняцца на дробязі ў шматлікіх эксперыментальных праектах. Але гэта ўжо скрайнасць, пра якую нельга казаць у адносінах да такога цікавага музыкі і кампазітара, як Зміцер Вайцюшкевіч. Вядомы ж ён больш як музыкант гурта "Kriwi", з якім Зміцер аб'ехаў ужо амаль усю Еўропу з гастролямі і канцэртамі, а таксама ўдзельнічаў у рэалізацыі многіх з названых вышэй праектаў.

І вось пра яго творчасць ізноў пачынаюць узгадваць у сувязі з выданнем фірмай "Ковчег" альбома "Цацачная крама", музыку для якога стварыў Зміцер Вайцюшкевіч паводле сатырычных і гумарыстычных вершаў вядомага беларускага паэта Леаніда Дранько-Майсюка.

12 разнастайных музычных кампазіцый прадстаўляюць вобразы чалавечых характараў. Пры чым робіцца гэта як паэтычнымі, так і музычнымі сродкамі. Таму вобразы "галоднага Ваўка", "баязлівага Барсука", "задаволенага Пеўня", "незалежнага Зубра" падаюцца вельмі пераканаўчымі і сучаснымі.

Такая адточаная вобразнасць паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка робіць тэксты кампазіцый вельмі зразумелымі і блізкімі не толькі для дарослых, але і для маленькіх слухачоў, якім абавязкова прыйдуцца да спадобы песенькі "рахманага Каня", "памяркоўнага Мядзведзя" ды іншыя творы з "Цацачнай крамы".

Ды і музычнае ўвасабленне альбома спрыяе ўніверсальнасці слухацкага ўспрымання: тут можна пачуць і французкі шансон, і дыска, і мелодыі характэрныя для кабарэ... Шмат фальклёрных уплываў—кантры, рэгі, беларускіх прыпевак. Стылістычная разнастайнасць альбома "Цацачная крама" нагадвае музычны калейдаскоп, які цікава слухаць і ў выглядзе лазернай кружэлкі, і ў музычным спектаклі з драматычным сюжэтам і аўтарскімі рэмаркамі.

Больш сталыя слухачы знойдуць нямала падстаў для параўнанняў, самааналізу, бо не пераявяцца на зямлі яшчэ тыя, хто ад душы падпелі б наступным куплетам:

*Я люблю сваю выгоду—*
*Елкі, хвоі і дубы,*
*Але ўсё ж за лыжку мёду*
*Я прадамся ў цырк любы.*

Альбо тыя, хто на сваёй скуры "адчуў" важнасць увасаблення вось такога жыццёвага імператыва "задаволенага Пеўня":

*Мудрасць простая мая:*
*Будуць куры—буду й я!*

Героя ж песенькі "калгаснага Барана" пазнае кожны, хто з дзяцінства ведае змест класічнай беларускай байкі:

*Я дурнейшы (і нашмат)*
*Барана за тога,*
*Байку напісаў Кандрат*
*Шчыра пра якога...*

Ва уступнай і заключнай песенькіках Гаспадара цацачнай кармы пра гэтыя вобразы словамі паэта сказана дасціпна і не злабліва:

*Людзі, людзі дарагія,*
*І малыя, і старыя*
*Вы нібы, як цацкі тыя*
*Завадныя і жывыя.*

Канешне, ідэя цацачных вобразаў—універсальная (успомнім для прыкладу, знакаміты дыснееўскі мульцік "Toy Story."), але бывае ўзалішне дыдактычнай. Таму, магчыма, для большай тэматычнай разнастайнасці такога альбома не пашкодзіла б увядзенне ў яго структуру некалькі больш складаных вобразаў. Напрыклад, цікава было б даведацца і зразумець тое, як паэт бачыць сёння ўвасабленне, напрыклад, сумленнасці, гонару і мудрасці.

Аўтар музыкі да альбома "Цацачная крама" Зміцер Вайцюшкевіч запрасіў на запіс яго шэраг выканаўцаў, якія добра вядомыя беларускай публіцы. Гэта і спявачка Ядвіга Папалаўская, якая дапамагае Зміцеру выконваць вакальныя партыі, трамбаніст аркестра М. Фінберга Зміцер Бударын, скрыпач Алесь Пузыня, гітарыст Алег Івановіч ды іншыя музыканты.

Іх агульнымі намаганнямі музычная палітра альбома набыла мяккія і разнастайныя гукавыя фарбы, якія дапамагаюць слухачам засяроддзіцца на "расшыфроўцы" вобразаў сатырычнай паэзіі Леаніда Дранько-Майсюка.

Сёння многія сур'ёзныя культуралагічныя выданні, аўтарытэтныя навукоўцы б'юцца над вырашэннем пытання наконт таго, што ж, усё ж, ёсць гэты загадкавы беларускі менталітэт? Новая версія адказу на яго—літаратурна-музычная, прапанаваная кампазітарам і паэтам, не прэтэндуе на навуковую абгрунтаванасць. Але трапна фіксуе тое, што, часам, застаецца па-за ўвагай філосафаў, сацыёлагаў. Што канкрэтна? Прапануем разабрацца самім, праслухаўшы новы кампакт-дыск "Цацачная крама"!

**Анатоль Мяльгуй**

## Давайце спяваць па-беларуску

## Скрыпка беларуская

Словы Э. Пашкевіч. Муз. П. Русава.

Умерана




1) Ну, і грай жа, скрыпка, хай гучыць там песня, або
2) Над-та ж у-жо цяж - ка, ду-ша з го-ра рвецца, слёзы
3) Му - зы - кант галосіць, скрып-ка не махлюе, хутка




свет па-чу - е, або сэр - ца трэс - не. Скрып-ка хут-ка пла-ча, аж лес
так і льюцца, сэрца з боллю б'ецца.
"хамску" песню увесь свет па - чу - е.




ля-ман-ту-е, то-лькі яе но-ты сы - ты не па-




чу - е. То-лькі яе но-ты сы - ты не па-чу - е.

Для заканчэння




То-лькі яе но-ты сы - ты не па - чу - е.

Ну, і грай жа, скрыпка,
Хай гучыць там песня,
Або свет пачуе,
Або сэрца трэсне.

Прыпеў:
Скрыпка хутка плача,
Аж лес лямантуе.
Толькі яе ноты
Сыты не пачуе.

Надта ж ужо цяжка,
Душа з гора рвецца,
Слёзы так і льюцца,
Сэрца з боллю б'ецца.

Прыпеў.

Музыкант галосіць,
Скрыпка не махлюе.
Хутка "хамску" песню
Увесь свет пачуе.



Чацвёртая перасоўная экспазіцыя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Кітая адкрылася ў Доміку паляўнічага ў Гомелі. На выставе прадстаўлена больш 70 прадметаў, выкананых сучаснымі кітайскімі майстрамі з захаваннем старажытных традыцый - вырабы з бронзы, бацікі - роспіс на шоўку, керамічныя імбрыкі і вазы. Але асобнае месца займаюць традыцыйныя для Кітая паветраныя змеі з паперы, якія выклікаюць павышаную цікавасць не толькі ў юных гамяльчан.

**На здымку:** у зале перасоўнай кітайскай экспазіцыі.
**Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА.**

Рэдактар Станіслаў Суднік

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 28. 01. 2002 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 10.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.